*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№45 студзень 2015***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## У студзені, 22-га, гадавіна смерці Міхаіла Жызнеўскага




***Сярод двух дзясяткаў асобаў, якія прыйшлі ўшанаваць памяць Героя Нябеснай сотні Міхаіла Жызнеўскага, прадстаўнікоў украінскай амбасады няма, але гэта не значыць, што яны не ўшанавалі яго памяць. Вянок ад прадстаўнікоў дыпламатычнай місіі ўжо стаіць каля помніка забітаму снайперам беларусу. Як паведаміла маці Міхаіла Жызнеўскага Ніна Васільеўна, дарадца ўкраінскай амбасады прысутнічаў раніцай у яе асабіста. ¨н выслухаў яе скаргі адносна таго, што час ад часу здзяйсняюцца напады невядомымі вандаламі на магілкі. У прыватнасці раскідваюцца вянкі, зрываюцца ўкраінскія і беларускія сцягі. Дарадца амбасады паабяцаў узяць гэта на асабісты кантроль і нейкім чынам узняць праблему на ўзроўні кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Трэба адзначыць, што сярод прысутных ёсць людзі, якія ведалі асабіста Міхаіла Жызнеўскага ва Украіне – гэта валанцёры, якія дапамагалі пратэстоўцам падчас драматычных падзей мінулага года, гэта сябры, паплечнікі, прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці Гомеля, а таксама Менска. Сярод сабраўшыхся прысутнічае кінадакументаліст Вольга Мікалайчык. Інфармацыя пра тое, што мусілі прысутнічаць прадстаўнікі ўкраінскай прэсы, адпавядае праўдзе. Яны, на колькі я ведаю, знаходзяцца на шляху да вёскі Сцяг Працы. Справа ў тым, што іх вельмі доўга правяралі на беларускай мяжы і дзякуючы таму, што гэтае пытанне вырашылася, яны прыехалі.***

# Алесь Бяляцкі: Аптымістычны сцэнар у 2015 годзе шмат у чым залежыць ад актыўнасці саміх беларусаў

Мінулы год стаў для Алеся Бяляцкага годам каардынальных зменаў: у чэрвені ён быў амніставаны, правёўшы ў калоніі амаль тры з чатырох з паловай прысуджаных гадоў зняволення, і адразу ўключыўся ў актыўную грамадскую дзейнасць.

- Сапраўды, пасля вызвалення з калоніі мне трэба было хутка адаптавацца да цывільнага жыцця, усё змянілася імгненна, і часу на развагі, рэфлексіі асабліва не было. Трэба было дастаткова хутка аналізаваць, разбірацца ў сітуацыі грамадскага жыцця ў Беларусі, ад якога я быў адарваны, нягледзячы на тое, што чытаў газеты і атрымліваў лісты. Напэўна, сустрэчы з людзьмі далі найбольш інфармацыі, магчымасць рабіць нейкія высновы, якімі я і стараўся дзяліцца ў наступныя месяцы. З боку еўрапейскіх чыноўнікаў і прадстаўнікоў міжнароднай супольнасці выявілася даволі вялікая цікавасць да таго, што я распавядаў. Апошнія паўгады я актыўна ездзіў, выступаў, тлумачыў, адказваў на асноўныя пытанні – з чым звязана маё вызваленне, што адбываецца ў Беларусі, чаго трэба чакаць ад уладаў і ад грамадзянаў.

Мне важна было данесці да еўрапейскай супольнасці праўдзівую інфармацыю пра сітуацыю ў Беларусі, найперш з грамадска-палітычнымі і сацыяльнымі правамі. Бо там увесь час паўстае багата пытанняў: што рабіць з Беларуссю далей, супрацоўнічаць – не супрацоўнічаць з беларускімі ўладамі, у які бок змяняецца сітуацыя ўнутры краіны ды іншае. Я мусіў тлумачыць, што расійска-украінская вайна захіліла сабой Беларусь і нашыя ўнутраныя праблемы, а нам надзвычай важна заставацца ў фокусе ўвагі Еўропы і ЗША.

- Многія міжнародныя праваабаронцы сцвярджаюць, што ў Брусэлі зараз вядуцца размовы пра тое, каб у стасунках з Беларуссю вярнуцца да перыяду “адлігі”, што назіралася ў 2008 – 2010 гадах. Якія ўражанні склаліся на гэты конт у Вас?

- Брусель асцярожна ставіцца да чарговых ініцыятываў Міністэрства замежных спраў Беларусі, міністра Макея, які зараз сапраўды актыўна сустракаецца з рознымі еўрапейскімі чыноўнікамі, спрабуе развярнуць Еўразвяз да Беларусі, палепшыць імідж уладаў у вачах Брусэлю. Гэтыя актыўныя дзеянні звязаныя найперш з трывожнай сітуацыяй у эканоміцы. Уладам трэба шукаць новыя крэдыты, мець магчымасці адтэрмінаваць ранейшыя пазыкі, якія яны набралі і патрацілі.

Другая прычына ў тым, што ў 2015 годзе будуць прэзідэнцкія выбары і беларускія ўлады хацелі б залагодзіць непрыняцце міжнароднай супольнасцю вынікаў папярэдніх выбараў. Яны хацелі б дабіцца адмены санкцыяў, уведзеных Еўразвязам супраць чыноўнікаў, вінаватых у парушэннях падчас выбараў ці ў рэпрэсіях супраць апанентаў улады. Таму яны зараз актыўна раздаюць абяцанні, спрабуюць вырашыць гэтыя пытанні на сваю карысць, выкарыстоўваючы для гэтага розныя метады.

Такім чынам быў выкарыстаны і расійска-украінскі канфлікт, тыя перамовы, якія праводзіліся ў Менску, падаюцца беларускімі ўладамі як асабістае дасягненне. Хоць насамрэч я дастаткова скептычна стаўлюся да нейкай значнасці ролі Беларусі ў гэтых перамовах - пляцоўка і не больш за тое. Як мне падаецца, Беларусь была абраная для перамоваў найперш таму, што гэта найбольш выгодна для расійскіх уладаў, бо яны разглядаюць Беларусь амаль як сваю ўласную тэрыторыю.

- Пры тым, што сітуацыя ў Беларусі да лепшага не змяняецца, як Вы ацэньваеце эфектыўнасць санкцый Еўразвязу, уведзеных за грубыя парушэнні правоў чалавека?

- Гэтыя санкцыі маюць найперш сімвалічны сэнс, з’яўляюцца ясным палітычным сігналам: пакуль у Беларусі будзе працягвацца пераслед грамадзянскай супольнасці, асобы, якія ажыццяўляюць гэты пераслед, будуць лічыцца непажаданымі на тэрыторыі дэмакратычных краінаў. На маю думку, гэты палітычны сэнс санкцыяў вельмі важны. Гэта такі моцны варыянт дыпламатычнай ноты, звернуты да беларускіх уладаў. Мне падаецца, што санкцыі з’яўляюцца тым інструментам, які абмяжоўвае маштабы рэпрэсіяў у Беларусі. Пасля ўвядзення гэтых санкцый некалькі дзесяткаў палітычных вязняў былі вызваленыя. Гэта прамы вынік санкцый. Таму, мяркую, як палітычны інструмент у выпадках грубага парушэння ўладамі ўнутранага заканадаўства і міжнародных пагадненняў, якія тычацца правоў чалавека, яны маюць сэнс.

- Як на ваш погляд эканамічны крызіс, які ўслед за Расіяй насоўваецца на Беларусь, можа адбіцца на агульнай грамадска-палітычнай сітуацыі?

- Пабачым, як будуць далей развівацца падзеі. Выглядае, што эканамічная сітуацыя будзе пагаршацца, паколькі беларуская эканоміка была ледзь не ў загадным парадку прывязаная да расійскай эканомікі. Вялізная эканамічная залежнасць Беларусі ад Расіі з’яўляецца вынікам палітычных і эканамічных саюзаў гэтых дзяржаваў. Таму сённяшні крызіс - гэта вынік свядомага геапалітычнага выбару беларускіх уладаў. Чым менш мы былі б звязаныя з нашым непрадказальным усходнім суседам, тым устойлівей была б нашая эканоміка. Апроч усяго, людзям, якія назіраюць за ўнутранымі грамадска-палітычнымі працэсамі ў Расіі за апошнія 20 гадоў, было зразумела, што станаўленне дэмакратыі там не скончанае і ў любы момант усё можа павярнуцца ў іншы бок. На жаль, так і адбылося. Мы бачым, як хутка зараз у Расіі звужаецца дэмакратычная прастора і краіна ператвараецца ў класічную аўтарытарную дзяржаву. Спадзявацца на трывалыя добрасуседскія адносіны з такой дзяржавай не даводзіцца.

Як паказвае практыка, пры абвастрэнні эканамічных праблемаў павышаецца сацыяльная актыўнасць усяго грамадства, бо людзі становяцца менш сацыяльна абароненымі. І мы ўжо бачым, як прымаюцца чарговыя законы, якія яшчэ больш зніжаюць гэтую абароненасць, як змяншаюцца заробкі ў выніку інфляцыі. Усё гэта – вынік геапалітычнай і эканамічнай арыентацыі беларускіх уладаў, і ўлады мусяць адказваць за сваю палітыку перад народам. Іншая справа, наколькі гэтая сацыяльная актыўнасць будзе мець нейкія арганізаваныя формы. Як паказвае вопыт канца 80-х – пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі эканамічны крызіс зацягваецца, то можна чакаць дастаткова сур’ёзных сацыяльных зменаў у грамадстве. Прычым - незалежна ад актыўнасці апанентаў улады. Адбываюцца масавыя пратэсты, якія спыніць немагчыма, бо на вуліцы выходзяць сотні тысяч людзей, якія патрабуюць свабоды, дэмакратыі, забеспячэння сваіх сацыяльных правоў і змагаюцца за лепшае жыццё. Тады апанентамі ўладаў становіцца ўсё грамадства.

- Якія прагнозы маеце на 2015-ты – год прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі?

- Нічога добрага нас у гэтым годзе не чакае. Песімістычны сцэнар звязаны і з агульным абядненнем, яшчэ больш складанымі праблемамі ў эканоміцы, якія пільнуюць нас наперадзе, і з закручваннем гаек ва ўсім грамадстве. Ідуць трывожныя сігналы, якія паказваюць, што пагаршэнне эканамічнай сітуацыі будзе прымушаць улады ўжываць усё больш драконаўскія меры ў дачыненні да правоў і свабодаў грамадзянаў. Нам, праваабаронцам, трэба будзе праяўляць больш актыўнасці і называць рэчы сваімі імёнамі, пратэставаць супраць змяншэння правоў грамадзянаў.

Калі казаць пра аптымістычны сцэнар на 2015 год, то тут багата што залежыць ад актыўнасці беларусаў: наколькі актыўна мы будзем адстойваць свае правы, настолькі можа і вымалявацца гэты аптымістычны сцэнар. Бо так ёсць ва ўсім свеце: людзі самі павінны змагацца за свае правы і не спадзявацца, што ці Расія ці Еўропа вырашыць нашыя праблемы. Мы павінны вырашаць свае праблемы самі, і я ў гэтым глыбока перакананы.

(скарочаны варыянт) Поўны варыянт на *http://spring96.org/be/news/74959*

# Задам на казе

***Ну вось і правялі мы цяжкі 2014-ы год і сустрэлі новы 2015-ы, які пакуль невядома што прынясе чалавецтву і кожнаму з нас. Гэта ў дзяцінстве кожны Новы год успрымаўся заўсёды як суцэльнае шчасце і нязменны цуд. З гадамі мы становімся дарослымі, потым старэем і непазбежна губляем свежасць уражанняў і радасць тых далёкіх дзіцячых адчуванняў. І ўсё болей прыходзім у сваіх разважаннях да старой як свет мудрасці: "Спадзяемся на лепшае, рыхтуемся да горшага". Дык што прынясе беларусам гэты паводле ўсходняга календара Год Казы?***

Чарговы пераход з году ў год для насельнікаў Беларусі быў асаблівым. Упершыню за апошнія дваццаць гадоў яны сустракалі Новы год у адзін час з Масквой, але таксама ўпершыню не пабачылі на агульнадаступных каналах кіраўніка суседняй дзяржавы і не паслухалі бою крамлёўскіх курантаў. Гэта да філасофскага пытання, што ў кожнай з'яве можна знайсці і нешта пазітыўнае. Значная частка беларусаў увогуле павыключала тэлеканалы, дзе транслявалася віншаванне самы ведаеце каго, каб не слухаць яго зусім. Гэта ўжо стала таксама традыцыяй, прынамсі апошніх дзесяці гадоў. Многія насуперак вызначанаму на сённяшні час сустракалі Новы год на гадзіну пазней, так як і мусіла быць, фактычна па віленска-кіеўскім часе. Магу засведчыць, што ў гэтую "сапраўдную" гадзіну ў Гародні шмат хто ў навагоднюю ноч салютаваў фаерверкамі. Адсоткаў жа асабістых сімпатый у Беларусі даўно ніхто ня ведае, гэта вялікая таямніца нашага часу.

Настроі беларусаў у 2014-ым былі рознымі і мяняліся ў адпаведнасці хіба што з курсам беларускага рубля да даляра. Так ужо збудаваны гэты свет, што большыня людзей вымярае асабістае шчасце пераважна матэрыяльнымі здабыткамі. Сучасныя беларусы таксама такія, таму і душацца ў розных чэргах пры першай жа магчымасці. Вось у Кітаі на гэты Новы год, дзесяткі людзей, падушыліся фізічна насмерць з-за таго, што нехта скінуў з даху ў натоўп фальшывыя даляравыя купюры. Такое магло здарыцца і з нашымі людзьмі, якія ствараюць падобную цісканіну ў розных маркетах, калі выкідваюць нешта таннае альбо са значнымі зніжкамі.



З 1-га студзеня юрыдычна беларусы прачнуліся ў новай геапалітычнай рэальнасці – у так званым еўразійскім саюзе. Ніхто, канешне, у грамадзянаў нашай дзяржавы не пытаўся ці хочуць яны ў той саюз. Амаль нікому з гэтых грамадзян не патрэбны, прыкладам, бязвізавы ўезд у Казахстан – 99% адсоткаў жыхароў там не былі і не маюць ніякіх інтарэсаў. Памкненні тых беларускіх грамадзянаў, якія хочуць жыць заможна, скіраваны якраз на захад. Беларусы хочуць бязвізавага ўезду ў Еўропу, а не ў Расію і тым больш Кыргызстан ці Узбекістан. Але Беларусь надалей застаецца эксперыментальнай пляцоўкай і самай закрытай краінай Еўропы ва ўсіх сэнсах. Тут цэлы час спрабуюць рэанімаваць савецкую сацыялістычную мадэль, якая фактычна перамешваецца з сучасным капіталізмам.

З 1-га студзеня насельнікаў Беларусі чакаюць новыя падвышаныя падаткі і пошліны, новыя павялічаныя штрафы, напэўна можна прагназаваць і дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Чыноўнікам і рэпрэсіўнаму апарату таксама ня будзе проста. Пасля абвалу расейскага рубля на радзіму вяртаецца цэлая армада гастарбайтараў – гэтая працоўная сіла за сто даляраў у месяц працаваць ня будзе, паўстае пытанне – куды яны падзенуцца. А ўжо складзены і спісы так званых "дармаедаў", якіх гвалтоўна хочуць прымусіць працаваць.

Ну і асноўны боль галавы 2015-га – гэта афармленне чарговага прэзідэнцкага тэрміну Гаранта стабільнасці. Разграміўшы за папярэднія дзесяцігоддзі фактычна фізічна ўсіх сваіх сур'ёзных канкурэнтаў, Гарант атрымаў самага моцнага апанента – самога сябе. За гэтыя гады электарат прывык да халявы, да поўнай "кармушкі", да той славутай і дэкляраванай "стабільнасці". А забяспечваць гэты "сацыяльны рай" пры поўнай адсутнасці рэформаў усё цяжэй.

Дык што будзе ў 2015-ым годзе з Беларуссю? Думаю, што наша краіна прадоўжыць свой рух. Але рух гэты будзе задам на казе.

*Уладзімір Хільмановіч*

## Вольга Крапоціна атрымала адпіску з гарадской пракуратуры

Грамадская актывістка з Гародні Вольга Крапоціна атрымала адпіску з гарадской пракуратуры на сваю скаргу. У сваім звароце яна прасіла праверыць законнасць дзеянняў грамадзяніна Уладзіміра Гарэлава і прадстаўнікоў міліцыі і даць ім належную прававую ацэнку. Менавіта Гарэлаў 19-га верасня 2014 году фактычна затрымаў Вольгу Крапоціну з прымяненнем фізічнай сілы, не маючы на гэта ніякага права, і перадаў яе міліцыянтам. На судзе ён тлумачыў свае паводзіны тым, што зрабіў гэта "только из уважения к участковому милиционеру", які прыходзіў да яго раней і прасіў памагчы ў пошуку тых, хто распаўсюджвае "крамольныя" улёткі. Вольга Крапоціна была аштрафаваная суддзём Дзмітрыем Бубенчыкам на 30 базавых велічынь за нібыта "незаконны выраб і распаўсюд друкаванай прадукцыі" – улётак з заклікам вярнуць Крым Украіне.



Пракурор гораду Уладзімір Клішын па скарзе Крапоцінай не знайшоў "падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання". Уладзімір Клішын спаслаўся на артыкул 7 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб удзеле грамадзян у ахове правапарадку", гаворачы пра паведамленні грамадзян, і праігнараваў галоўнае ў скарзе – незаконнае прымяненне грамадзянінам Гарэлавым фізічнай сілы ў дачыненні да Крапоцінай і ігнараванне гэтага факту супрацоўнікамі міліцыі.

## Абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу аштрафаванага журналіста Андрэя Мялешкі

8 студзеня Гарадзенскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу аштрафаванага журналіста Андрэя Мялешкі. Судддзя Анатоль Заяц, агучыўшы змест пісьмовага аспрэчвання, прадказальна ўзяў бок суда першай інстанцыі.

2 снежня 2014 году гарадзенскі журналіст-фрылансер Андрэй Мялешка быў засуджаны да чарговага (ужо трэцяга за год) штрафу паводле артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу 22.9, частка 2 (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі). Паводле пастановы суддзі Ленінскага раённага суду Юрыя Казакевіча ён аштрафаваны на 40 базавых велічынь, што складала на той момант 6 мільёнаў беларускіх рублёў. Сутнасць "парушэння" суд угледзеў тым, што Андрэй Мялешка ў абласной бібліятэцы імя Карскага на прэзентацыі гістарычных выданняў запісаў кароткі каментар аднаго з аўтараў кніжкі – прафесара Гарадзенскага ўніверсітэту імя Янкі Купалы Валерыя Чарапіцы. Пазней аўдыёфрагмент з гэтай размовы быў змешчаны на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Ленінскі РАУС пачаў па гэтым факце ў дачыненні Мялешкі адміністрацыйную справу, якую давялі да штрафу.



Усе ранейшыя абскарджанні ў судах нацыянальнага роўню па штрафах за журналісцкія матэрыялы не прынеслі для Андрэя Мялешкі станоўчага выніку. ¨н перакананы, што яго пазбаўляюць права на прафесію і незаконна дыскрымінуюць паводле палітычных матываў. Зараз Мялешка, каб дамагчыся справядлівасці і законнасці, мае намер звярнуцца са скаргай у міжнародны Камітэт па правах чалавека.

## Вітольд Ашурак: Беларуса судзяць за беларускі сцяг у Беларусі




Актывіста з Бярозаўкі Вітольда Ашурка намагаюцца прыцягнуць да адказнасці за ўдзел ў акцыі ўшанавання памяці братоў Віктара і Кастуся Каліноўскіх у Свіслачы.

Вітольда затрымліваюць за сцяг у 2012 годзе. тады актывіст адседзеў 3 сутак

Сябра Партыі БНФ прыйшла позва ў Лідскі раённы суд на 8 снежня. У сваю чаргу, актывіст адмовіўся туды ехаць і прапанаваў разглядзець справу без яго непасрэднага ўдзелу, спаслаўшыся на недавер да суда, які бярэцца разглядаць падобныя справы.

- Калі беларуса судзяць за беларускі сцяг у Беларусі, то я маю пэўны сумніў, што гэта беларускі суд. Прысутнічаць на такім судзе я лічу немэтазгодным і абразлівым для сябе.

Па аналагічнай позве, напрыканцы снежня ўжо быў асуджаны сябра Партыі БНФ з Бярозаўкі – Сяргей Трафімчык. Справа актывіста таксама разглядалася без яго асабістага ўдзелу. Вынік паседжання Лідскага раённага суда тады быў – штраф у тры мільёны рублёў.

# Генадзь Семянчук таксама трапіў у „Спіс Шапіры”

Пару дзён засталося працаваць дацэнту Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Генадзю Семенчуку. Адміністрацыя не працягнула яму гадавы кантракт без тлумачэння прычыны. Да гэтак званага “Спісу Шапіры” дадаўся яшчэ адзін актыўны навуковец, які пакідае ўніверсітэт.

На думку Генадзя Семенчука, універсітэт пасля гэтага ўсё больш губляе ўзровень навуковасці і дыдактыкі:

- Да моманту звальнення, якое закранула ўласна мяне, я неяк метафарычна і гумарыстычна ставіўся да акрэслення “гарадзенская гістарычная школа”, дык вось цяпер я ўсвядоміў, што яна сапраўды існуе. Таму што ў першую чаргу ўніверсітэт пазбавіўся індывідуальнасцяў, якія мелі і маюць нейкае значэнне і голас у навуцы. Кантынгент, які зараз застаецца на факультэце, будзе нібыта працягваць вучыць студэнтаў, гэта пераважна пенсіянеры і вельмі маладыя, недасведчаныя яшчэ спецыялісты.



Генадзь Семянчук мяркуе, што “Спіс Шапіры” – гэта спланаваная акцыя з палітычным, антынацыянальным намерам, які не абмяжуецца гэтымі звальненнямі. Уражвае тое, што галіновы прафсаюз, які дзейнічае ва ўніверсітэце, ніяк не адрэагаваў на апошнія звальненні навукоўцаў. Прыгадаем, што пры былым абласным кіраўніку Сямёне Шапіру адбылася хваля звальненняў навукоўцаў, пераважна гісторыкаў, з гарадзенскага ўніверсітэту.

# Гарадзенскі гарвыканкам не дазваляе сябрам АГП праводзіць інфармацыйныя пікеты



Прадстаўнікі Гарадзенскай арганізацыі Аб’яднанай Грамадзянскай Партыі атрымалі з Гарадзенскага гарвыканкаму адмову на правядзенне пікетаў, прысвечаных грамадскаму рэагаванню на валютна-фінансавы крызіс і патрабаванню адстаўкі Прэзідэнта і чальцоў ураду дзяржавы, якія вінаватыя ў такім крызісе. Сябры АГП мелі намер правесці пікеты з мэтай інфармавання насельніцтва гораду.

Асобныя заяўкі на правядзенне пікетаў падавалі старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі АГП Аляксандра Васілевіч і старшыня Гарадзенскай гарадской структуры партыі Ежы Грыгенча.

У адказе чыноўнікаў за подпісам намесніцы старшыні гарадскога выканкаму Зоі Кулешы недазвол абгрунтаваны стандартнай за апошнія гады фармулёўкай – у сувязі з непрадстаўленымі заключанымі дамовамі для забеспячэння грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўвання і прыбірання тэрыторыі. Пры тым актывісты АГП у сваіх заявах прасілі гарвыканкам дапамогі ў заключэнні такіх пагадненняў і прыклалі пісьмовыя абавязальніцтвы па аплаце адпаведных паслугаў.

# Гарадзенскі актывіст накіраваў скаргу ў Камітэт ААН

Скарга ў камітэт па правах чалавека ААН накіраваная гарадзенскім актывістам кампаніі “Гавары Праўду” Ежы Грыгенчам. Летась у час збору подпісаў грамадзянаў за “Народны Рэферэндум”, яго затрымала міліцыя ў адным са спальных раёнаў Гародні.

Суддзя Ленінскага суду Юры Казакевіч прысудзіў яму штраф у памеры 10-ці базавых вялічынь.

Каардынатар кампаніі “Гавары Праўду” па Гарадзенскай вобласці Зміцер Бандарчук каментуе справу:

- Любы жыхар Гародні ці іншага населенага пункту Беларусі мае права на зварот у дзяржаўныя органы па любым пытанні. Так і кампанія “Народны рэферэндум” пабудаваная на тым, каб грамадзяне не бралі дазвол у дзяржавы, каб ініцыяваць правядзенне Народнага рэферэндуму. Актывісты збіраюць подпісы пад зваротам грамадзянаў, каб парламент ці прэзідэнт, як суб’екты, якія могуць ініцыяваць правядзенне рэферэндуму, зрабілі гэта.



Ежы Грыгенчу вінавацілі ў тым, што ён быў ініцыятарам рэферэндуму ў Беларусі. Хоць ініцыяваць рэферэндум прапаноўвалася Парламенту і кіраўніку краіны. У подпісных лістах было патрабаванне бясплатнай адукацыі і медыцыны, а таксама, каб на пасаду прэзідэнта можна было абірацца не больш за два тэрміны запар, ды іншае.

# Беларускія жарты

***Дзіўная гэта штука чалавечая псіхіка. Трэба крыху пажыць на гэтым свеце, каб перастаць у ёй разбірацца. І добра пажыць, каб перастаць разбірацца ў ёй зусім. Ну чым больш жывеш, тым менш разумееш.***

***Здаецца яе ўжо цалкам, або амаль цалкам разгадаў у свае маладыя гады, калі па зразумелых прычынах разбірацца ў гэтым проста не можаш хаця бы з-за браку жыццёвага досведу. Але юнацкі максімалізм і абвостраная ў гэтыя гады бескампраміснасць не заўважаюць паўтаноў. Падвышаны ўзровень тэстастэрона, а разам з ім і адрэналіна прыдаюць упэўненасці ў сваіх сілах і ведах. Ну і ўсё гэта ў суме выліваецца ў адну вялікую памылку пра пабудову псіхікі таго біялагічнага віду да якога з гонарам адносіш і сябе любімага, і які ў навуковых колах носіць аптымістычную назву "чалавек разумны".***

Не будзем хадзіць далёка. Пагаворым пра нашы беларускія справы. Бо можа ў іншых землях ў гэты час ўсё адбываецца па-іншаму чым у нас, у тым ліку і з чалавечай псіхікай. То хай яе даследуюць мясцовыя аналітыкі. Не будзем забіраць у іх хлеб. Але што тычыцца Беларусі, то тут назіраецца поўная адсутнасць уздзеяння псіхікі на свайго ўладальніка. На таго самага, разумнага, паводле вызначэння сусветнай навукі.

Найяскравейшы прыклад, гэта чаканне канца свету. Кажуць, што яго баяцца на ўсёй планеце. І з прыходам кожнага Новага году гэтая тэма абвастраецца. Беларусы зусім нядаўна таксама баяліся прыходу канца свету, што аб'ядноўвала нас хоць у нечым з блізкімі і далёкімі суседзямі. Але ужо некалькі апошніх гадоў наша псіхічная эвалюцыя пайшла нейкім іншым кірункам, яшчэ не вывучаным сучаснай навукай. Мы сталі баяцца што канец свету не прыйдзе. Ну не прыйдзе ўвогуле. Ці калі і прыйдзе, то вельмі не скора. Нам не дачакацца. Як кажуць у народзе – не з нашым шчасцем.

– Калі ўжо гэты канец свету прыйдзе, – пачуў я нядаўна нэрвовае пытанне аднаго мужчыны ля дзвярэй крамы, скіраванае да другога, які з тае крамы выходзіў з пляшкай гарэлкі у руцэ. Але выраз яго твару зусім не адпавядаў урачыстасці моманту. Быў усядно нейкі заклапочаны і бязрадасны.



– А халера яго ведае, – адказаў ён. – Вельмі баюся, што зусім не прыйдзе! Хоць ужо даўно пара. А на закуску, як ты зразумеў, не хапіла грошай.

– Калі гэта ўжо ўсё скончыцца, – кажа кабета на гарадзенскім рынку, узіраючыся на цэннік, лічбы на якім істотна падраслі. – Яшчэ ўчора гэта рэч каштавала танней. Я хацела яе купіць на Новы год у падарунак.

– Сапраўды, калі гэта ўсё скончыцца, – уздыхаючы адказвае прадавачка. – Яшчэ ўчора даляр быў таннейшы, то і прадукт таннейшы. А сёння падрос. Вось вы мне адкажыце на вашае ж пытанне! І калі гэта ўсё скончыцца? А рэч трэба было браць учора. Бярыце хоць зараз. А то што будзе заўтра ніхто не ведае.

– Што будзе, што будзе, – незадаволена буркнула жанчына. – Можа ўжо, нарэшце, канец свету будзе!

– Не спадзявайцесь на гэта, – махнула рукой суразмоўніца. – Колькі ўжо чакаем, а яго няма ды няма. Баюся, што зусім не будзе. Не з нашым шчасцем.

Зразумела, што людзі гаварылі не зусім сур'ёзна. Ці зусім не сур'ёзна. Але і не зусім жартавалі. Тут не да жартаў ужо. І гэта былі не жарты. А нейкі новы від псіхічнай эмоцыі, для якога яшчэ нават назву не паспелі прыдумаць. Настолькі ён новы, і настолькі мясцовы з трывалай беларускай прапіскай.

Гэта калі людзі перастаюць рэагаваць непасрэдна на негатыўнае дзеянне, і адпаведна не шукаюць больш шляхоў як гэтага негатыву пазбегнуць. Настолькі ўжо згубілі веру ў тое, што хоць нешта можа залежыць ад іх. І таму, замест спробы паўплываць на канкрэтную сітуацыю асабіста, іх розум стаў збудоўваць абстрактныя і вельмі небяспечныя развагі пра змену сітуацыі самым кардынальным чынам. Можа яны на ўзроўні падсвядомасці ці інтуіцыі сапраўды думаюць, што канец свету – гэта адзінае, што яны яшчэ зрабіць здольныя. Адзінае, што яшчэ залежыць ад іх асабіста.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на люты 2015 году

**2 лютага**

Сусьветны дзень водна-балотных нетраў.

70 гадоў таму (1945) – У Вільні ў савецкім зьняволеньні загінуў Валянцін Рамановіч, беларускі мастак. Нараджэнец Карэлічаў.

**4 лютага**

65 гадоў таму (1950) – Памёр Ян Булгак, фотамастак, этнограф, краязнавец. Нараджэнец в. Асташына (Наваградзкі р-н).

**10 лютага**

35 гадоў таму (1980) – Памёр Браніслаў Ржэўскі, беларускі літаратуразнавец, педагог, дысідэнт, палітычны вязень. Пахаваны ў Гародні.

**11 лютага**

75 гадоў таму (1940) – Быў адчынены Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласьці.

**13 лютага**

445 гадоў таму (1570) – Гарадзенскі магістрат зацьвярджае статут аб'яднанага цэху кавалёў, кацельнікаў, мечнікаў і сьлясароў.

**16 лютага**

120 гадоў таму (1895) – Памёр Тамаш Булгак (нар. у 1801, фальварак Міцкевічы, Наваградзкае ваяв.), удзельнік паўстаньняў 1830-31, 1863-64 гг.

**18 лютага**

170 гадоў таму (1845) – Памёр Ігнат Анацэвіч, беларускі гісторык, археограф, педагог. Нараджэнец Малой Бераставіцы.

**19 лютага**

125 гадоў таму (1890) – У в. Барані (Астравецкі р-н) нарадзіўся Канстанцін Стаповіч (Казімер Сваяк), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт.

105 гадоў таму (1910) – У Гародні адбылася адна з першых беларускіх вечарынаў.




**20 лютага**

205 гадоў таму (1810) – Памёр Марцін Пачобут Адляніцкі, асьветнік, астраном, педагог. Нараджэнец в. Саламянка (Гарадзенскі р-н).

75 гадоў таму (1940) – У Гародні адчынены настаўніцкі інстытут – першая ў Заходняй Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова.

**21 лютага**

Міжнародны дзень роднай мовы.

**23 лютага**

85 гадоў таму 1930 – Нарадзілася (на Смургоншчыне) Часлава Семяновіч (дзявочае Садоўская), актывістка грамадзка-палітычных арганізацый у Гародні.

**24 лютага**

255 гадоў таму (1760) – Памёр Мацей Догель, гісторык-археограф, правазнавец. Нараджэнец в. Гембулы (Шчучынскі р-н).

**26 лютага**

390 гадоў таму (1625) – У в. Сэрвач (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Багуслаў Казімер Маскевіч, вайсковы і грамадзкі дзеяч ВКЛ, пісьменьнік-мемуарыст.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*
**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*
**www. spring96.org**




*На сайце*
**www.palitviazni.info**
*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*
**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
студзень 2015
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

